


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

20 снежня 2002 года

№ 51 (400)
Выходзіць па пятніцах

ПЛЮС Тэлетыдзень

**Навіны рэгіёна**

## Паставілі ёлку

**СМАРГОНЬ.** У сераду на плошчы Леніна ўстанавілі галоўную ёлку горада. Вышынёй яна з 5-павярховы дом.

Усяго ў райцэнтры будзе 5 зялёных прыгажунь.

**Ірына РАБУШКА.**

## Пачалася вакцынацыя

**МЯДЗЕЛ.** На пачатак снежня ў раёне лабараторна пацвердзілі 18 выпадкаў шаленства жывёл. А ў мінулую пятніцу лісіца завітала ў райцэнтр. На тэрыторыі будаўнічай арганізацыі яе разарвалі сабакі. Давялося іх усыпляць.

У лесе праводзіцца вакцынацыя дзікіх жывёл. Там расклалі спецыяльны прэпарат. Пакаштаваўшы яго, звяры год не захварэюць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Усе на лёд!

**ВАЛОЖЫН.** Хлопчыкі і дзяўчынкі з Брылькоўскай базавай школы-сада залілі лядовую пляцоўку.

Канькоў хапае на 2 хакейныя «пяцёркі». Частку ахвяравала раённае таварыства "Чырвонага крыжа". Астатнія купілі за школьныя грошы.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Згарэла музычная школа

**МЯДЗЕЛ.** Позна вечарам 11 снежня здарыўся пажар у Крывіцкай музычнай школе.

Цагляны будынак школы пашкоджаны ўсярэдзіне, згарэлі музычныя інструменты.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Паспеў выскачыць

**МАЛАДЗЕЧНА.** Раніцай у аўторак на чыгуначным пераездзе каля Плябані грузавы цягнік збіў грузавую машыну.

Вадзіцель машыны паехаў на чырвонае святло. Перад сутыкненнем паспеў выскачыць. Лакаматыў і машына моцна пашкоджаныя. Рух цягнікоў узнавілі праз гадзіну.

**Ірына РАБУШКА.**

## Маладзёжныя сустрэчы

**ВІЛЕЙКА.** 9-11 снежня ва ўсіх гарадскіх школах адбыліся сустрэчы вучняў з кіраўнікамі дзіцячых і маладзёжных арганізацый, зарэгістраваных у Вілейскім райвыканкоме.

Дзеці пазнаёміліся з мэтамі, задачамі і дзейнасцю БРСМ, скаўтаў і піянераў. Па прагнозах сацыёлагаў, у 2003-2005 гадах чакаецца ўздым маладзёжнага руху.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

# «Падарунак» калгаснікам

**ВІЛЕЙКА. Работнікаў калгаса "Бальшавік" паставілі на мяжу выжывання. Налічаная зарплата за лістапад у калгасе крыху вышэй за мінімальную.**

Згодна з пастановай Савета Міністраў Беларусі №1506 ад 30 кастрычніка 2002 года сельскагаспадарчыя арганізацыі, якія маюць запазычанасць па заработнай плаце, абавязаныя налічваць заработную плату ў памеры не больш за 25% выручкі ад рэалізаванай прадукцыі.

Калгас "Бальшавік", як і абсалютная большасць калгасаў у краіне, выплачвае зарплату са спазненнем і падпадае пад дзейнасць названай пастановы. Даяркі, якія працуюць на ферме ў вёсцы Крывое Сяло, гавораць, што іх налічаная зарплата за лістапад знізілася ў параўнанні з кастрычніцкай у некалькі разоў. Калі ў летнія месяцы ў калгасе атрымлівалі каля 100 тысяч рублёў, восенню – 50-60 тысяч, то за лістапад даяркам налічылі па 15-25 тысяч рублёў. У калгаснікаў няма выхадных – каровы патрабуюць догляду штодзень. Даяркі работу не збіраюцца кідаць – шкадуюць скаціну.

Калі выплацяць лістападаўскую зарплату, невядома. Тры тыдні таму разлічыліся за жнівень, верасень і кастрычнік. Галоўны эканаміст калгаса **Вера Альшэўская** прагназуе, што, калі пастанову не адменяць, то снежаньская зарплата ў калгасе будзе яшчэ меншай. За лістапад "Бальшавік" выручыў 20 мільёнаў рублёў за кошт продажу малака, парасят, збожжа, мяса. У фонд зарплаты пайшла чацвертая частка – 5 мільёнаў. У калгасе працуюць 165 чалавек, атрымліваецца без уліку падаткаў 31,5 тысячы рублёў на кожнага. У снежні чакаюць меншую выручку, бо ў апошні месяц года малака ў калгасе менш, збожжа таксама прадаваць не будуць. Тады будзе меншы фонд зарплаты. І можа атрымацца, што "Бальшавік" не зможа заплаціць сваім работнікам нават мінімальнай заработнай платы.



Даярка калгаса "Бальшавік" Зінаіда Абросімава кожны дзень выходзіць на работу даглядаць цялят і кароў, нягледзячы на тое, што за лістапад ёй налічылі каля 20 тысяч рублёў. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Іншае пытанне, калі калгаснікі атрымаюць грошы. Асноўны спажывец калгаснай прадукцыі Вілейскі гармалзавод заплаціў авансам калгасу грошы, з якіх і выплацілі трохмесячную зарплату. Але атрымалася, што завод заплаціў 28 мільёнаў рублёў за малако, якое яшчэ не атрымаў. Гэтую суму "Бальшавік" будзе гасіць да вясны. Да сакавіка-красавіка за свае малако гаспадарка грошай больш не атрымае. З чаго плаціць зарплату? У гаспадаркі ж даўгі за падаткі, электраэнергію, камунальныя паслугі на паўмільярда рублёў...

Усё пазнаецца ў параўнанні. Калгаснікі са смуткам успамінаюць восеньскія часы, калі атрымлівалі большую зарплату, і чакаюць наступных выбараў, калі прыедуць кандыдаты ў дэпутаты і будуць раздаваць чарговыя абяцанкі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Што падарыць на Новы год?

Стральцам пажадана ўручыць навагодні падарунак у кампаніі Дзеда Мароза, Вадалеі будуць радыя паштоўкам, адпраўленым па электроннай пошце, гадзіннікам і музычным дыскам. Парады, які навагодні падарунак выбраць, – у матэрыяле Ірыны Громавай.

3-я старонка

### Краіна роўных магчымасцяў

Кожны чацверты швед імкнецца працаваць за мяжой, бо ў іх на радзіме вялікія падаткі. Ягады і яблыкі шведы не збіраюць. Карлсан у Швецыі – не "мужчына ў самым росквіце сіл і гадоў", як мы яго ўяўляем, а эгаістычны злы абжора. Такую Швецыю ўбачыў наш карэспандэнт.

5-я старонка

### Калядныя гісторыі

Каляды пачалі святкаваць яшчэ нашы продкі-язычнікі. Беларусы здолелі захаваць само свята і калядныя традыцыі. Як святкуюць Каляды на Беларусі і як паваражыць на свайго суджанага, вы даведаецеся, калі прачытаеце матэрыял Вадзіма Зубрыцкага.

8-я старонка

■ АДУКАЦЫЯ

## Новае звяно

**МАЛАДЗЕЧНА. 347 школьнікаў з Заслаўя, Вілейскага, Мядзельскага, Валожынскага, Маладзечанскага раёнаў і Маладзечна ўдзельнічала ў міжрэгіянальных алімпіядах. У мінулую суботу вучні 7-11 класаў спрабавалі свае сілы па 11 школьных дысцыплінах.**

Усе ўдзельнікі – ранейшыя пераможцы гарадскіх і раённых алімпіяд. Заданні дзеці рабілі пісьмова. На падрыхтоўку адвялі 4 гадзіны. Некаторым хапіла і трох. Работы вучняў сабралі, зашыфравалі, запячаталі і адвезлі ў Мінск. Вынікі алімпіяды падвядуць у абласным аддзеле адукацыі. Пераможцы будуць удзельнічаць у абласных алімпіядах.

Міжрэгіянальныя алімпіяды – гэта нованаўвядзенне. Лічацца І турам абласных алімпіяд. Арганізатар аддзела адукацыі **Наталля Попчанка** гаворыць, што новае звяно ў алімпіядах аблегчыць арганізацыю і падрыхтоўку абласных алімпіяд. Колькасць удзельнікаў скароціцца, і ўзровень алімпіяд узнімецца, бо з паведлічэннем колькасці адборачных этапаў адсеюцца слабейшыя школьнікі.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЗАХАПЛЕННІ

# Вілейскія байкеры

**ВІЛЕЙКА. У горадзе з'явіўся першы матацыкл стылю "чопер".**

Яго сканструявалі і склалі віляйчане **Сяргей Марынюк** і **Аляксандр Чубенка** на базе цяжкога матацыкла МТ, выкарыстаўшы дэталі больш чым ад дваццаці розных матацыклаў і машын. Задняе кола ўзялі ад легкавога аўтамабіля і ў адпаведнасці з канонамі стылю мае паменшаны дыяметр. На гэткім матацыкле трэба ездзіць павольна – 50-60 кіламетраў у гадзіну, каб даць магчымасць прахожым разглядзець прыгажуна, які здзіўляе больш, чым крутыя іншамаркі. "Чопер" на вуліцах горада можа паспрыяць інфармацыйнаму прарыву і росту папулярнасці байкерскага клуба "Праклён дарог", спроба стварыць які адбылася летась.



Аляксандр Чубенка з Вілейкі на першым у горадзе матацыкле ў стылі "чопер". Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

Ініцыятыўная група з 13 чалавек, якую ўзначаліў Аляксандр Чубенка, распрацавала правілы работы клуба, сімволіку. Але цяпер арганізаванай дзейнасці практычна няма. Маладыя аматары матацыклаў групуюцца па гаражах, робяць усё паасобку на сваю рызыку.

Некантралюемая моладзь на матацыклах з'яўляецца галоўным болем для аўтаінспекцыі. Пераход ад стыхійнага аматарства да прадказальнай дзейнасці прафесійнага клуба дазволіць накіраваць энергію байкераў у цывілізаванае рэчышча.

Патэнцыял байкерскай рамантыкі можна выкарыстоўваць на карысць моладзі і горада. Для гэтага байкерам патрэбна легалізацыя, паразуменне з гарадскімі ўладамі, юрыдычная дапамога і дах над галавой – гараж. Да байкерства ў горадзе можна прыцягнуць 30-40 маладых людзей. Раней на святах горада людзі з задавальненнем назіралі за выступленнямі коннаспартыўнай секцыі, картынгістаў, мотаклуба. Цяпер гэтага няма. Калона байкераў можа ўзбагаціць святочную праграму і стварыць сапраўднае відовішча.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Дапамажыце глухім дзецям

**МАЛАДЗЕЧНА. Паважаныя чытачы "РГ"! Звяртаецца да вас праўленне грамадскай арганізацыі "Камертон" дзяцей-інвалідаў з парушэннямі слыху.**

У гэты нялёгкі час мы просім аб дапамозе. Ва ўсім свеце ў пярэдадні Каляд, Новага года людзі дораць адзін аднаму падарункі, аказваюць дапамогу бедным, хворым, дзецям. Гадаваць дзіця-інваліда – гэта вялізнае гора для ўсёй сям'і. Маці часта не маюць магчымасці працаваць, і ім даводзіцца жыць на пенсію і зарплату бацькі, калі ён ёсць. У большасці выпадкаў свята ў сям'і не адчуваецца.

Мы просім вас паглядзець навокал, магчыма, ў вашага калегі ці суседа пакутуе дзіця, а можа, гэта сябар вашага сына. Падарыце ім, калі ласка, радасць! Магчыма, гэта будзе пакет з фруктамі і слодычамі. А можа, вы зможаце аказаць грашовую дапамогу адной ці дзвюм сем'ям, ці пералічыць грошы для нашай арганізацыі. Вы можаце падарыць радасць хворым дзецям. Зрабіце гэта!

Тэлефон для даведак у Маладзечне: 6-90-80, 7-53-02.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ СУСТРЭЧЫ

# Мост сяброўства вытрымаў

**МАЛАДЗЕЧНА. 13 снежня на базе СШ №8 прайшоў семінар-практыкум "Гульнявыя тэхналогіі". Праводзіў яго выканаўчы дырэктар кампаніі "Фокус-група" Андрэй Ляўко з Мінска.**

У семінары ўдзельнічалі маладыя настаўнікі, педагогі-арганізатары, выхавальнікі груп падоўжанага дня і вучні-старшакласнікі. Ад Андрэя яны даведаліся пра гульні і практыкаванні, якія дазваляюць засвоіць вучэбны матэрыял і наогул любыя веды. А.Ляўко кажа, што цяжка ўспрымаюць гульні настаўнікі больш сталага ўзросту.

Спачатку ўсе селі ў кола, каб пазнаёміцца. Супакоіліся, хвіліну памаўчалі. Кожны павінны быў адчуць, які ў яго настрой, і параўнаць яго з надвор'ем, тэмпературай паветра. Трэба сказаць, што тэмпература, якую называлі дзеці, была вышэйшая.

Кожны ўдзельнік знайшоў сабе пару падчас наступнай гульні. Умова яе: гульцы не павінныя былі ведаць адзін аднаго. Каб даведацца пра сябра, парам далі 2 хвіліны. Усе разбегліся па куточках... Пазнаёміліся бліжэй. Дзецям дазволілі называць настаўнікаў па імёнах. Але толькі адзін хлопчык рашыўся на гэта.

Потым перайшлі да сапраўднай вучобы. Высветлілася, што падчас лекцыі засвойваецца 5% матэрыялу, з дапамогай аўдыё- і відэатэхнікі – 20%. І атрымалася піраміда запамінання.

Яшчэ больш прыйшлося ўдзельнікам паварушыць мазгамі, калі трэба было за 20 хвілін пабудаваць мост з паперы, алоўкаў, клею, скрэпак. Дзве каманды разышліся ў розныя пакоі. Праз некаторы час аднаму прадстаўніку з кожнай каманды можна было паглядзець, што робіцца ў суседзяў. Нарэшце вынеслі часткі маста, злучылі, пакалалі "груз". Усе затаілі дыханне... Мост вытрымаў.

Напрыканцы сустрэчы Андрэй Ляўко падвёў вынікі. Усе былі задаволеныя.

**Ірына РАБУШКА.**



Гульня "Знайдзі сабе пару". Маладзечна, 13 снежня, СШ №8. Семінар-практыкум для школьнікаў і настаўнікаў "Гульнявыя тэхналогіі". Фота Ірыны РАБУШКІ.

Як засвойваецца школьны матэрыял




■ КОНКУРСЫ

## Інтэлектуальныя гульні

**МАЛАДЗЕЧНА. 12 снежня ў Палацы культуры прайшоў шосты абласны чэмпіянат інтэлектуальных гульняў, на які з'ехаліся 22 каманды з гарадоў Мінскай вобласці.**

Юным інтэлектуалам прапанавалася адказаць на 36 пытанняў на розную тэматыку. На некаторыя не знаходзілі адказу нават трэнеры каманд. У выніку перамагла каманда "Легіён" са Смалявічаў. На п'едэстал яшчэ трапілі каманды з Салігорска і Стоўбцаў. Гаспадароў прадстаўляла каманда "Буслы" з цэнтра пазашкольнай работы, якая заняла чацвертае месца.

**Вікторыя ПАЎЛОВІЧ,**
**гурток "Юны журналіст" цэнтра пазашкольнай работы.**

■ БУДОЎЛІ

## Царкву будуюць прыхаджане

**МАЛАДЗЕЧНА. Другі тыдзень ідуць богаслужэнні ў часовым памяшканні царквы, што ў шостым мікрараёне.**

Хоць без падлогі, але з дахам над галавой і нават печкай-"буржуйкай". Палатку, у якой каля 5 гадоў маліліся людзі, разарвалі вятры. Завяршыцца будаўніцтва цяперашняга часовага памяшкання, а наперадзе яшчэ адна прыступка – будаўніцтва на гэтым месцы храма Раства Хрыстова. Дапамагаюць збіраць грошы самі вернікі, якія ахвяруюць свае грошы падчас штотыднёвых сустрэч у цэнтральнай гарадской бібліятэцы на духоўных чытаннях "Біблія і мы".

**Ларыса КАРЧЭЎСКАЯ.**

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

## Медалі – Ілаўскаму віну

**МЯДЗЕЛ. На VI міжнародным прафесійным конкурсе "Лепшае шампанскае, віно і каньяк года" ў Маскве адзначылася і прадукцыя унітарнага прадпрыемства "Ілаўскае".**

Віно "На рубяжы вякоў-2002" атрымала сярэбраны медаль, а "Ілаўскае святочнае" – залаты. А на аматарскую дэгустацыю з усіх пладовых він трапіла "Ілаўскае святочнае" – сказалі, што унікальнае. Робіцца яно з соку буякоў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ СУСТРЭЧЫ

## Новы цэнтр прадпрымальніцтва

**МЯДЗЕЛ. Вёску Камарова наведала дэлегацыя з прадстаўніцтва праграмы развіцця ААН у Беларусі, Міністэрства эканомікі.**

Мясцовы сельскагаспадарчы ліцэй, грамадскае аб'яднанне "Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю" вылучылі свой варыянт на праект "Стварэнне пілотнага цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцтва у РБ". І вось дэлегацыя знаёмілася з умовамі ў Камарове для ажыццяўлення праекта. Яго лёс будзе вырашаны пазней. Пры ажыццяўленні праекта, мяркуецца, што гэты цэнтр будзе месціцца ў старой графскай сядзібе ў Камарове. Падрабязней пра праект раскажам у адным з наступных выпускаў "РГ".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Што падарыць на Новы год?

**Чым адрозніваюцца навагоднія падарункі ад іншых, за што мы іх так любім і чакаем? Адказ просты: мяшочкі і каробачкі пад ёлкай не звычайныя, а чароўныя. Вось таму навагоднія падарункі застаюцца самымі-самымі...**

### Авен

Марсіянскі знак нагадвае аб зброі, таму прыгледзьцеся да кінжалаў, сабляў, пісталетаў. Затым, безумоўна, агонь, а, значыць, свечкі і падсвечнікі – вельмі навагоднія падарункі. Вогненную тэму працягваюць запальнічкі і курыльныя наборы, трубкі. Авенам добра падарыць несэсэры ці якія-небудзь штучкі для любімага аўтамабіля – як мужчынам, так і жанчынам. Персанальна для слабага полу – брошкі, арыгінальныя упрыгожванні з металу. Наогул, Авенам цяжка дагадзіць, таму лепш выбіраць падарункі разам з імі.

### Цялец

Суперпадарунак – сувенірны рог-кубак для мужчыны, букет руж для жанчыны. А маленькаму Цялятку падрыхтуйце куфэрак з ласункамі і манеткамі. У цяльцоўскім магазіне падарункаў: світэры, камізэлькі і шалікі, гальштукі, роўна як і ўсялякае адзенне, — думайце, якую абноўку хацелі б вашыя Цяльцы. Ніколі не памыліцеся, калі падорыце Цялушачцы касметычку. І для мужчын – крэм для галення і іншае. Падарунак павінны выглядаць унушальна – гэта пульхны мяшочак са стужачкай.

### Блізняты

Двайному знаку аднаго падарунка мала: хоць бы два, няхай невялікія. Наогул, чым больш, тым лепш, каб развесіць на ёлку і потым шукаць сярод цацак – вельмі захапляльна для малых Блізнятак. Дарослым трэба дарыць штосьці карыснае для работы і хобі – наборы розных інструментаў, папкі і арганайзеры, партфелі, а таксама ручкі (алоўкі, фламастары). У дзіцячы куток пастаўце кубікі, мазаіку ці канструктар, а магчыма, і санкі з лыжамі. Блізнятам будуць радыя плееру, мінірадыё і навушнікам. Заўжды дарэчы пальчаткі і рамяні.

### Рак

Падарунак для Рака нельга купляць у апошні момант. Ракам падыдзе ўсялякі посуд: кубкі, піўныя кубкі, сервізы, а таксама салфетачкі-сурвэткі. Добра будзе падарыць і мяккія тапачкі, рукавічкі, а там – прыемныя дробязі, пупсы-анёлачкі, звяркі. Ракам старэйшага ўзросту будзе прыемна атрымаць плед, начнік, шаль. У "афіцыйнай серыі" – люстэркі, кнігі (можна шматтомнікі).

### Леў

Леў – святочны знак, і таму тут у ходзе навагоднія сімвалы — Дзеды Марозы, Снягурачкі, усялякія ёлачкі, шарыкі і званочкі. Самі сабой напрошваюцца маскарадныя касцюмы з каронай і мантыяй – у першую чаргу для Львянят. Аднак не забывайцеся: усе гэтыя сувеніры толькі дадатак да асноўнага падарунка. І жанчыны, і мужчыны чакаюць упрыгажэнняў – гэта завушніцы, кальє, пярсцёнкі, запінкі, заціскі для гальштука (і сам гальштук), а таксама гадзіннікі. У ліку буйнакаліберных падарункаў – свяцільнікі, карціны, вазы, статуэткі і футра. Дзецям падыдуць цацкі.

### Дзева

Дзевам добра падарыць рукзакі і розныя сумачкі – цераз плячо, гаспадарчыя, дзіцячыя. Паглядзіце, каб там было некалькі аддзяленняў, і ў гэтыя "норкі" хавайце сюрпрызы: гэта могуць быць звяркі, цацкі-галаваломкі. Серыю могуць прадоўжыць дзелавыя падарункі: наборы для вышывання, вязання, вымяральныя прыборчыкі, калькулятары. Сэрца Дзеў ўзрадуецца пры выглядзе кніжкі, даведніка. У спісе прыемных сюрпрызаў – цацкі, упрыгажэнні з дрэва і скуры.

### Шалі

Для Шаляў важны "антураж" падарунка, прыгожая цырымонія і ўпакоўка. Суперварыянт прадугледжвае асабісты ўдзел Дзеда Мароза са Снягурачкай. Шалі ўсіх узростаў любяць скрыначкі і куфэрачкі – лакавыя, абшытыя скурай. Вось вам намёк на падарункі: дзеці будуць радыя розным значкам, жанчыны – кулончыкам, пудраніцам, духам і газавым шалікам. Мужчыны ацэняць гальштукі і запінкі, візітніцы, запісныя кніжкі. На дэсерт – каробка цукерак.

### Скарпіён

Скарпіёнам нельга выбіраць падарунак вечарам 31 снежня. Традыцыйна скарпіёнавымі лічацца антыкварныя рэчы, сувеніры, упрыгажэнні з каменя. Далей – свяцільнікі з пахучым алеем, чучалы, попельніцы і запальнічкі. Джэнтльменскі (і дамскі) набор дапоўняць каньяк і картачкая калода, духі і бялізна плюс розныя "інтымныя штучкі". Маленькі Скарпіён захоча нямала. Зэканоміць можна, калі купіць цацку з сакрэтам і схаваць яе трэба добра.

### Стралец

Апошняя парада для Скарпіёна падыходзіць і Стральцу. Сюрпрыз для Стральчат можна схаваць на вуліцы (павесіць на "жывую" елку) і даць ім карту для пошуку. Суперідэя – "выпадковая" сустрэча з Дзедам Марозам (і падарункам) на вуліцы. Стральцам падыдзе вялікая сумка ці рукзак, а таксама спартыўны інвентар і касцюмы. Дзецям – цацкі на колах, якія можна "асядлаць". Ва ўсіх у цане "прыкольныя" сувеніры, кнігі, даведнікі і атласы.

### Казярог

Гэты знак любіць атрымліваць падарункі пад бой гадзіннікаў. Купляць іх трэба загадзя – спешна можна і брак прыхапіць. Што яны любяць? Па-першае, скуру: сумачкі, візіткі, рамяні – гэта будзе дарэчы і мужчынам, і жанчынам. Па-другое, інструменты – ад аўтаручкі да швейнай машыны. Дзецям падыдуць канструктары і ўсялякія штучкі для школы – пеналы, глобусы. А яшчэ маленькія Казярогі парадуюцца "дарослым падарункам", да прыкладу, завушнічкам ці гальштучкам.

### Вадалей

Знак тэхнічнага прагрэсу будзе рады атрымаць віншаванне па электроннай пошце. Уран і Нептун, якія гуляюць па Вадалеі, бударажаць яго мары аб радыётэлефонах, камп'ютэрах і розных прыстаўках (у тым ліку і музычных), аб электронных цацках, а таксама аб усялякіх дробязях тыпу дываноў пад мышку. Аб запаветных жаданнях Вадалеяў можна даведацца, калі паглядзець рэкламныя ролікі, дзе паказваюць міксеры, мікрахвалевыя печы, фены і дэзадаранты. Вадалеяў – вялікіх і малых – цікавіць "апошні піск" моды – ці то будуць упрыгажэнні, посуд, цацкі. Заўсёды дарэчы – касеты і дыскі.

### Рыбы

З задавальненнем запазычаць у Вадалея музычныя прыбамбасы і дыскі, ад сябе выкажуць "сціплае" пажаданне наконт магнітафона, фотаапарата ці відэакамеры. Што яшчэ? Шкло: вазачкі і фігурныя бутэлькі з добрымі напоямі. Далей ідуць ручнікі і халаты, духі і туалетная вада. Дзецям хочацца што-небудзь чароўнае: касцюмчык феі ці мага, цацку з любімай казкі ці мультыка. Няхай будзе некалькі падарункаў. Адзін схавайце на ёлку, другі яшчэ куды-небудзь, а трэці няхай прынясе Дзед Мароз.

**Ірына ГРОМАВА.**

# Хлеб-соль вам ды ёд!

Хлебам-соллю ў нас традыцыйна сустракаюць дарагіх гасцей, уручаюць ад чыстага сэрца гэтыя сімвалы дастатку і дабрабыту. З хлебам-соллю ўсё зразумела, а пры чым тут ёд? А пры тым, што па меркаванні сусветнай арганізацыі аховы здароўя, каля 100 мільёнаў людзей на зямлі пражываюць у ёдадэфіцытных раёнах, а ёд — той элемент, без якога немагчыма жыццё любога арганізма. І хоць ў прыродзе ёду шмат, размяркоўваецца па рэгіёнах ён нераўнамерна: глеба Беларусі, да прыкладу, ім адносна бедная, а моры і акіяны, у водах якіх ёд выдатна раствараецца і прысутнічае ў значных канцэнтрацыях, ад нас, на жаль, далёка.

Смешна казаць: чалавеку на ўсё жыццё патрабуецца ўсяго 12-13 грамаў ёду — капля ў моры, дакладней, чайная лыжачка. Але недахоп ёду адбіваецца на здароўі чалавека самым сур'ёзным чынам.

Эндэмічны валляк, або павелічэнне шчытападобнай залозы — захворванне, распаўсюджанае ва ўсім свеце, развіваецца менавіта з-за недахопу ёду. Хвароба каварная — доўгі час яна сябе ніяк не праяўляе, чалавек не непакоіцца і да доктара не спяшаецца. Але шчытападобная залоза, якая выконвае ў нашым арганізме самыя розныя функцыі - рэгулюе абмен рэчываў, псіхічныя працэсы, сардэчную дзейнасць, рост касцявой тканкі, ужо пакутуе. Калі дэфіцыт ёду становіцца значным, у чалавека развіваецца гіпатырэёз. У чалавека пры гэтым адзначаецца зніжэнне працаздольнасці, слабасць, стомленасць, пачуццё прыгнечанасці. Але самы непрыемны сімптом гіпатырэёзу, у якім страшна прызнацца нават самому сабе, — парушэнне інтэлекту.

Жанчыны і дзеці ў першую чаргу пакутуюць ад ёдадэфіцыту ў арганізме.

Асабліва небяспечны недахоп ёду для цяжарных, гэта вядзе да прывычнага неданошвання, да анеміі. Дзеці, народжаныя ад такіх маці, часта атрымоўваюць гіпатырэёз "у спадчыну", у іх часцей адзначаецца прыроджаныя выродлівасці.

Ёсць яшчэ адзін узроставы перыяд, калі дзеці падвержаны ёднаму голаду, — гэта падлеткавыя гады. У перыяд актыўнага росту, калі дзіця выцягваецца на вачах здзіўленых бацькоў, недахоп ёду зноў можа балюча ўдарыць па сваёй "мішэні". Наступствы бываюць сумнымі — развіваюцца хранічныя хваробы, адзначаюцца праблемы ў палавым выспяванні і зноў жа — затрымка разумовага і псіхічнага развіцця. Ёсць строгія навуковыя даследаванні, якія прама гавораць — недахоп ёду стварае рызыку паступовага зніжэння інтэлекту ў папуляцыі! Вучоныя папярэджваюць: ёд — абсалютна неабходны элемент для нармальнага развіцця чалавечага мозгу і для захавання разумовага патэнцыялу.

Але, як кажуць урачы-эндакрынолагі, яны назіраюць абсалютную недасведчанасць сваіх пацыентаў. Да прыкладу, чалавеку ўстаноўлены дыягназ "эндэмічны валляк", назначаны прыём прэпаратаў і дыета. На справе аказваецца, што глытаць таблеткі пацыент не спяшаецца, апраўдваецца: у мяне нічога не баліць! І толькі, калі функцыя шчытападобнай залозы зніжаецца, "узнагароджваючы" ўсімі непрыемнымі сімптомамі, хворы хапаецца за лекі. Але час у многім упушчаны, дэфіцыт ёду неабходна папаўняць адразу ж, як толькі ён выяўлены.

Быў час, калі прафілактыку ёднай недастатковасці дзяржава брала на сябе, — помню, у школьныя гады мы атрымоўвалі смачнае дражэ з ёдам. Сёння ж кожны сам павінен падумаць пра сябе і сваіх блізкіх. Гэта значыць, неабходна ўключаць у меню прадукты харчавання, багатыя ёдам. Напрыклад, марскую капусту, іншыя морапрадукты, грэцкія і кедравыя арэхі, чарнаплодную рабіну, экзатычную хурму. Тут адразу хочацца паўтарыць словы хлопчыка з рэкламнага мультыка: але гэта так складана!

Уключайце іх у свой рацыён харчавання, а калі доктар прапісаў — не грэбуйце і прэпаратамі ёду. Гэта неабходна, каб быць здаровымі, вельмі моцнымі і вельмі разумнымі.

Адным словам, хлеб-соль вам ды ёд!

**Таццяна ШАРОВА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 12.12 руб. | 19.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1911,00 | 1916,00 |
| Еўра | 1927,24 | 1966,39 |
| Злоты | 484,87 | 491,47 |
| Літ | 558,29 | 569,66 |
| Расійскі рубель | 59,98 | 60,14 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1925/1950 | 1925/1950 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 11.12 | 18.12 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10990 | 10900 |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | 4990 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 1 кг | 700 | 720 |
| Грэчка, 1 кг | 1000 | 1050 |
| Цукар, 1 кг | 865 | 865 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1150 | 1200 |
| Алей, 1 л | 1950 | 1600 |
| Маянэз, 200 г | 400 | 380 |
| Кава «Пеле, 100 г | 1900 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 600 | 600 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 700 | 700 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 700 | 700 |
| Капуста, 1 кг | 510 | 500 |
| Морква, 1 кг | 600 | 650 |
| Лімоны, 1 кг | 2100 | 1900 |
| Апельсіны, 1 кг | 1500 | 1550 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1 л | 650 | 750 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2000 | 2000 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 3500 |
| Яблыкі, 1 кг | 800 | 1000 |

**■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА**

## Пажары ў кватэрах

**АШМЯНЫ. 14 снежня ў райцэнтры загарэлася кватэра 65-гадовай жанчыны.**

Яна памерла ў бальніцы. Падчас тушэння пажару ў пакоі знайшлі труп 58-гадовага мужчыны. Трэці "сябар" толькі спалохаўся.

За мінулы тыдзень у Ашмянскім раёне ў агні загінула 5 чалавек. Прычына пажараў – п'янства.

## Разбой у магазіне

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак у магазін "Прадукты" па вуліцы Скарыны зайшло двое мужчын, якія, пагражаючы нажом, забралі 2 бутэлькі гарэлкі і ўцяклі.**

Іх затрымалі ў той дзень. Узбуджаная крымінальная справа.

## Гараць дзверы

**МАЛАДЗЕЧНА. 15 снежня каля 4-х гадзін раніцы невядомы падпаліў уваходныя дзверы ў кватэры па вуліцы Міру.**

На наступны дзень зноў тое самае. Толькі па вуліцы Скарыны. Па абодвух выпадках узбуджаная крымінальная справа.

## Укралі валёнкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Ноччу 17 снежня невядомыя залезлі ў дачны домік садовага таварыства "Уручча" каля вёскі Верадова.**

Злодзеі ўкралі 2 пары валёнак і алюмініевыя каркасы ад крэслаў. Узбуджаная крымінальная справа.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Спрэчкі вакол «Мінскага хлеба»

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак на адрас рэдакцыі прыйшоў ліст ад дырэктара Маладзечанскага хлебазавода Сяргея Малашэвіча. Ён просіць надрукаваць у газеце свой адказ аўтару публікацыі ў "РГ" №49 ад 6 снежня "Спрэчкі вакол хлеба" Юрыю Карпіцкаму.**

## Прэамбула

У артыкуле гаварылася, што мінская прадпрымальніца і ўладальніца гандлёвага павільёна "Мінскі хлеб" на рынку райспажыўтаварыства Валянціна Балькіна адчувае ціск з боку Маладзечанскіх гарадскога і раённага выканкомаў і райспажытаварыства і лічыць, што яе выжываюць з рынку. Аргументуе гэта прадпрымальніца тым, што за 11 дзён лістапада кіёск праверылі 4 разы, аб чым сведчыць запіс у журнале праверак. Акрамя ўсяго, не дазваляюць гандляваць маладзечанскім хлебам. Бо хлебазавод скасаваў дагавор з прадпрымальніцай на наступны дзень, як атрымаў першую заяўку на хлеб і грашовы пераклад на 300 тысяч рублёў.

Валянціна Балькіна просіць старшыню райвыканкома Сямёна Касабуцкага разабрацца, чаму хлебазавод не хоча рэалізаваць ёй свой хлеб. Адказу прадпрымальніца яшчэ не атрымала.

Затое адрэагаваў дырэктар хлебазавода Сяргей Малашэвіч. Застаецца дадаць, што цяпер кожны гандлёвы пункт, які прадае харчовыя тавары, павінен у сваім асартыменце мець тавары мясцовых вытворцаў. Інакш гарадскі ці раённы выканкомы могуць пазбавіць прадпрымальніка ліцэнзіі на рознічны гандаль.

## Ліст ад дырэктара хлебазавода

"Паважаны Юрый Сяргеевіч!

У сваім артыкуле "Спрэчкі вакол хлеба" Вы з вялікай энергіяй памкнуліся на падтрымку прадпрымальніцы Балькінай В.М. Аднак дапусцілі памылку – не вывучылі мэту, сутнасць і спосаб яе дзейнасці. Не звярнуліся да абвінавачаных для ўдакладнення фактычнага стану спраў.

У канцы ліпеня гэтага года Балькіна В.М. звярнулася да хлебазавода з заявай аб жаданні гандляваць хлебабулачнай прадукцыяй завода на рынку. 1 жніўня быў заключаны дагавор... Так што з 2 жніўня ў Балькінай В.М. былі ўсе магчымасці адкрываць гандаль. Але гэтага не адбылося. Чаму?

Выклікае здзіўленне і зайздрасць ва ўменні атрымання дазволу на ўстаноўку гандлёвага памяшкання на рынку, таму што ў пачатку года ад хлебазавода запатрабавалі прыбраць дзеючы з 1992 года кіёск у сувязі з рэканструкцыяй рынку. Маем надзею ў бліжэйшым нумары "Рэгіянальнай газеты" даведацца падрабязна аб шляхах атрымання такога дазволу. Няхай іншыя павучацца.

Гандляваць на рынку Балькіна В.М. пачала толькі прадукцыяй мінскіх хлебазаводаў. Даведаўшыся пра такі гандаль на працягу двух тыдняў, хлебазавод звярнуўся ў райвыканком з інфармацыяй аб поўнай адсутнасці ў продажы прадукцыі хлебазавода. Праз тыдзень пасля звяртання ў райвыканком Балькіна В.М. пералічыла 300 тысяч рублёў папярэдняй аплаты без паведамлення аб гэтым хлебазаводу і потым зрабіла заяўку на 20 буханак фармавога хлеба і 10 батонаў з гэтага асартыменту ў 25 найменняў. На пытанне аб смехатворнасці такой заяўкі адказала, што яна толькі разварочваецца з гандлем. І гэта пасля трох тыдняў гандлю прадукцыяй мінскіх хлебазаводаў. З'явіўшаяся вывеска "Мінскі хлеб" на гандлёвым памяшканні паказала сапраўдны сэнс дзейнасці Балькінай В.М.

Стала зразумелай і мэта заключэння дагавора з хлебазаводам, і таму для прадухілення новага прыкрыцця хлебазаводам была вернута папярэдняя аплата і скасаваны дагавор, які не дзейнічаў на працягу 1,5 месяца. У практыцы работы хлебазавода такога не было, гэта першы выпадак...

Прыгожа абышла Балькіна В.М. хлебазавод, райспажыўтаварыства, райвыканком і нават Вас, Юрый Сяргеевіч. Яна дасягнула сваёй мэты, мэты атрымання лёгкіх і вялікіх грошай для ўласнага абагачэння. З аб'ёмам рэалізацыі ў 500-600 тысяч рублёў у дзень пры ўстаноўленай Міністэрствам эканомікі Рэспублікі Беларусь гандлёвай нацэнкі 15% на хлебабулачную прадукцыю і 30% на кандытарскія вырабы чысты прыбытак штодзённа складае 80-90 тысяч рублёў па самых сціплых падліках, а ў месяц 2,0-2,3 мільёна рублёў...

... Адна тона складае 4% сутачнай выпечкі хлебабулачнай прадукцыі хлебазаводам. Зніжэнне аб'ёму вытворчасці на 4% выклікае неабходнасць на столькі ж (на 4%) зменшыць спажыванне мукі і рэалізацыю камбінатам хлебапрадуктаў, скарачэння працоўных на хлебазаводзе на 9 чалавек. Можа, Вы пасадзейнічаеце ў працаўладкаванні гэтых людзей у Балькінай В.М.?

Балькіна ў любы момант можа спыніць свой гандаль і за гэта ні перад кім не нясе ніякай адказнасці. За ўзнікшы недахоп у горадзе хлебабулачнай прадукцыі ў такім выпадку будзе запытана з "Маладзечнагандлю" і хлебазавода. Магчымасцю такога развіцця падзей і заклапочаны гарадская і раённая ўлады, яны хочуць прадухіліць такое развіццё.

31 снежня 2002 года сышоў тэрмін дзеяння ліцэнзіі на права рознічнага гандлю і дзяржаўнай рэгістрацыі ў Балькінай В.М. Для атрымання новых дакументаў яна разгарнула вялікую дзейнасць па фарміраванні выгаднага ёй грамадскага меркавання. Яна выкарыстоўвае радыё, "Рэгіянальную газету", пайшла на рынак, а не ў працоўныя калектывы і арганізацыі, дзе працуюць людзі з эканамічнымі ведамі і з дзяржаўнай ацэнкай таго, што адбываецца, сабіраць подпісы ў недасведчаных абывацеляў..."




На рынку райспажыўтаварыства ля кіёска "Мінскі хлеб" шматлюдна.
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Адказ ад аўтара публікацыі

З Вашага ліста я зрабіў выснову, што хлебазавод сапраўды зацікаўлены выжыць прадпрымальніцу з рынку. Вы ведаеце, што яе могуць пазбавіць ліцэнзіі менавіта з-за адсутнасці ў асартыменце маладзечанскага хлеба. І за Вамі сіла, бо калі Вы, як дырэктар адзінага ў горадзе прадпрыемства-вытворцы хлеба, не падпішаце дагавор з Балькінай, маладзечанскага хлеба ў яе не будзе.

Словы "для прадухілення новага прыкрыцця" я расцэньваю як нежаданне працаваць з чалавекам, які пасяхова гандлюе прадукцыяй канкурэнта, аб чым сведчаць бесперапынныя чэргі ля кіёска "Мінскі хлеб". Прадпрымальніца выручае 500-600 тысяч рублёў за гандлёвы дзень. Калі яе не будзе на рынку, гэтыя грошы прыйдуць на рахунак хлебазавода, бо маладзечанскаму хлебу не будзе дастойнай альтэрнатывы. Вось кошт спрэчак вакол хлеба! Давайце дадзім спажыўцу выбраць, які хлеб купляць. Пагадзіцеся, яму не вельмі істотна, у чыю кішэню класці грошы за ЯКАСНЫ хлеб: хлебазавода ці прадпрымальніка.

З'яўленне Балькінай зніжае эканамічныя паказчыкі работы хлебазавода. Гэта праблема прадпрыемства, і Вы, як дырэктар, павінныя яе вырашаць. Асабіста я не буду супраць, калі хлебазавод зможа прадаваць ўдвая больш хлеба, чым цяпер. Але не шляхам забароны гандляваць іншым хлебам. А менавіта "ўласнае абагачэнне" і ёсць сэнс любой прадпрымальніцкай дзейнасці. Усе прадпрымальнікі працуюць, каб атрымаць прыбытак. Што ў гэтым благога?!

Мяркую, што трэба ўлічваць меркаванне кожнага чалавека. Нават, калі гэта "недасведчаныя абывацелі", тым больш, што яны, упэўнены, купляюць і маладзечанскі хлеб. Сотняй подпісаў у кнізе скаргаў і прапаноў Балькіна даказала, што частка маладзечанцаў супраць закрыцця "Мінскага хлеба".

У сваім матэрыяле "Спрэчкі вакол хлеба" я толькі выказаў факты. Не справа журналіста займаць чыйсьці бок у канфлікце. З павагай,

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Краіна роўных магчымасцяў

**Аб тым, што сучасная Еўропа ўсё больш складаецца не з краін, а з гарадоў, ужо добра вядома.**

Вярнуўшыся з Германіі, у размове з субяседнікам абавязкова прыйдзецца канкрэтна сцвярджаць, адкуль менавіта прыбыў – з Гамбурга, Эслінгена ці Берліна, што вялікая розніца. Ды і тая ж Прага ў большасці еўрапейцаў хутчэй уяўляецца найпрыгажэйшым горадам, чым сталіцай Чэхіі. Пра Будапешт і наогул даўно ходзіць дурная слава "спальні" Еўропы, бо і праўда, таму што прастытутак на вуліцах процьма. Вена, Парыж, Зальцбург, Венецыя і шмат іншых гарадоў не проста непаўторныя і чароўныя, але і кожны па свойму унікальны. У гэтым бляску гарадоў-сталіц Стакгольм выдзяляецца асоба – ён не з'яўляецца еўрапейскім горадам, ён не з'яўляецца сталіцай еўрапейскай краіны, ён проста сталіца Швецыі. Ды і сама Швецыя – хутчэй скандынаўская, чым еўрапейская краіна. І мой расповед – аб гэтым горадзе і краіне.



Так выглядае цэнтр Стакгольма. Фота Алега ГУЛЕЦКАГА.

Швецыя – скалістая краіна. Горад знаходзіцца на 14-і астравах уздоўж праснаводнага возера і салёнага марскога заліва. На вуліцах абсалютная чысціня, цудоўная экалогія (ваду з крана можна піць, рыбакі каля каралеўскага палаца ловяць стронгу, у прыгарадах сустракаюцца зайцы, казулі, ласі), архітэктура васьмі стагоддзяў – горад летам адзначыў 750-годдзе. Усё гэта бударажыць уяўленне. І калі мы накіраваліся ў Швецыю, то не ведалі, куды трапілі, да таго ж былі поўныя ілюзій. Дзякуючы ім, мабыць, мы і палюбілі гэты горад.

## Без ілюзій

Усе нашыя ранейшыя ілюзорныя ўяўленні аб гэтай невялікай дабрабытнай краіне (насельніцтва менш, чым у нас) былі разбітыя ў першыя ж дні. Аказваецца, што і ў эканоміцы справы ў іх не вельмі. Хаця па сярэднегадавых тэмпах прыросту ВВП (каля 2%) шведы апярэджваюць многія іншыя краіны Еўропы, і даход на душу насельніцтва на чвэрць у іх вышэй, чым у сярэднім па краінах ЕС. Аднак пры сярэдняй заработнай плаце ў 2000 долараў і падаткі дастаткова высокія – да 35%, што прыводзіць да эканамічнай эміграцыі з краіны. Па статыстычных дадзеных, да 25% шведаў імкнуцца працаваць за мяжой, дзе падаткі меншыя. Хаця наша прыказка "Босы, як швед" адносіцца да перыяду 140-гадовай даўнасці, калі насельніцтва ад голаду і сапраўды бегла ў іншыя краіны.

Ілюзія шведскага сацыялізму, разрэкламаваная ў нас у 80-90-я гады, аказалася разявчанай. Так, роўнасць ёсць, але яна амаль даведзеная да абсурду. У парламенце, напрыклад, лідэрам абавязкова будзе выбраны прадстаўнік меншасці менавіта для кантролю і нагляду за пераважнай большасцю. У бальніцы па-за чаргой прайсці рэнтген не ўдасца нават за грошы – усе роўныя. Роўнасць між жанчынамі і мужчынамі захоўваецца няўхільна — фемінізм тут дасягнуў свайго апагея. 4 гады таму на выбарах перамаглі і атрымалі ўладу ў парламенце хрысціянскія дэмакраты, але яны не ведалі як і за што браць. Бо ў краіне амаль 80 гадоў былі сацыялісты, якія правілі, як умелі. Дзесьці пазносілі старыя гарады, у Стакгольме па падабенству з Масквой пабудавалі такую ж "устаўную сківіцу" – рад шматпавярховых будынкаў. Кансерватарамі быў выбраны адзіны шлях папаўнення бюджэту – прыватызацыя дзяржаўнай уласнасці. Французам былі прададзеныя гарадскія метро і прыгарадны транспарт, аднак працуе ён дрэнна, нярэдка стаянкі зацягваюцца да 15 мінут. Вядомыя на ўвесь свет буйнейшыя шведскія канцэрны прыбралі да рук іншаземцы – "Вольва" адышла да амерыканскага канцэрна "Форд", а "Эрыксан" – да карпарацыі "Соні". Грошай, што атрымалі ад карпарацыі, хапіла ненадоўга, і пад хваляй моцнай крытыкі злева буржуазныя партыі зноў выбары прайгралі. Прыйшоўшым да ўлады сацыялістам, прадаваць было няма чаго, яны ідуць на іншыя меры – на 2003 год прагназуецца павышэнне падаткаў, павелічэнне кватрплаты за карыстанне муніцыпальным жыллём на 5% і ўвядзенне платнага праезду па старой частцы Стакгольма, што выклікае рэзкі пратэст гараджан. Эканамічны спад апошніх двух гадоў таксама спасцігнуў і Швецыю. Агульны аб'ём страт на фондавых рынках склаў 240 мільярдаў долараў, акцыі кампаніі "Эрыксан" упалі ў цане з 200 крон у 2000 годзе да 3 крон цяпер. Гэта пагражае звальненнем у наступным годзе 50-і тысяч работнікаў.

Нашы ж звычайныя ўяўленні аб гэтай паўночнай краіне таксама аказаліся няправільнымі. Шведскі стол быў не проста сытным, але і багатым. Але наўрад ці гэта ўжо нацыянальная асаблівасць, хутчэй за ўсё — прэстыж і кошт гатэля.

Выявілася, што паняцця "шведская сям'я" няма, гэта яўна прыйшло, як і парнаграфія, ад датчанаў. Як і ў некаторых іншых дзяржавах Еўропы, дазволены шлюбы паміж асобамі аднаго полу, на павестцы дня стаіць пытанне аб праве ім выхоўваць дзяцей, і хутчэй за ўсё такі закон будзе прыняты. Працэдура шлюбу зведзена амаль на нішто з-за складаных фінансавых узаемаадносін паміж членамі сямей пры магчымых разводах – пары могуць проста пражываць сумесна. Па іхнему гэта называецца "самба". Менавіта так цяпер жывуць наследніцы караля Швецыі.

Сам жа кароль аддае перавагу не айчыннай "Вольве", а "Поршэ", ганяе са сваёй рэзідэнцыі у загарадным доме (12 км ад горада) на работу ў Стакгольм, кожны дзень сам за рулём. Кароль таксама любіць у вольны час пагуляць у камп'ютэрныя гульні з дзецьмі. А таксама на біржы: некалькі гадоў таму ён правёў удачную здзелку і прынёс шведскай казне 30 мільёнаў долараў. У гэтым годзе Карл Густаў зрабіў шмат паездак у Расію, у прыватнасці ў Мурманск. Кажуць, што пад выглядам сур'ёзных перагавораў ён займаецца экзатычнай зімняй рыбалкай.

Паважаюць тут і не атрымаўшую Нобелеўскую прэмію (за кнігі для дзяцей не прысуджаюць) Астрыд Ліндгрэн. Аднак не за вобраз "мужчыны ў самым росквіце сіл і гадоў" Карлсана, а за вобраз дзяўчыны Пэпі-доўгая панчоха. Карлсана амаль ніхто не любіць, хоць і жыў ён на адной тыповай шведскай вуліцы, на даху тыповага шведскага дома. Шведскі Карлсан – эгаістычны злы абжора, які з'яўляецца плодам фантазіі дзіцяці, якое пакутуе ад тыпова шведскай адзіноты.

Карлсан – не самае папулярнае прозвішча ў Швецыі, Свенсанаў больш. І калі табе раптам захацелася змяніць сваё прозвішча, што ў прынцыпе гэта дазволена, на больш мілагучнае для шведскай мовы і выбраў Свесан, то прыйдзецца табе атрымаць на гэта дазвол ад усіх Свенсанаў, што тут пражываюць.

Працуюць шведы без напругі, няспешна, як і жывуць. Вечнае студэнцтва, глыбокае дзявоцтва. Выйсці замуж у 55 гадоў – няма праблем. Праз вызначаныя адрэзкі часу на рабоце абавязковыя перапынкі на каву-чай.

Бананы, мандарыны, яблыкі і грушы – усюды. Бульба прадаецца штучна для запякання. А ягады і яблыкі шведы не збіраюць. Яны так і застаюцца на дрэвах і на зямлі. У час прыёму гасцей перад Новым годам шведы гатуюць "глёг" – алкагольны гарачы напітак і падаюць яго з разынкамі і арэшкамі. Нагадвае глінтвейн. Па сваёй сутнасці, шведы больш нацыяналісты, хаця разумееш гэта не адразу. Але, мабыць, каб у нашай нацыі была такая нацыянальная самасвядомасць, то жылося б у Беларусі намнога лепш.

## Шведскія плюсы

Даведаліся мы пра краіну і шмат добрага. Аказалася, падумваюць аб адраджэнні членаў легендарнай групы "АББА". Ніхто не супраць зарабіць некалькі мільёнаў долараў на тых, у каго настальгія па дыска. Але гэта адбудзецца толькі тады, калі са Швейцарыі вернецца графіня Анфрыд Лінгстад – цемнавалосая салістка групы. Усе астатнія ўдзельнікі квартэта жывуць дома – на поўдні краіны ўладкавалася ў "сціплым доміку" бландынка Агнета Фельтшуг, а хлопцы ўсё выпускаюць мюзіклы. Кажуць, што нават збіраюцца гастраляваць па краінах СНД, у тым ліку і ў нас.

У Швецыі надзвычай высокая сацыяльная забяспечанасць грамадзян. Хаця ўсе і стогнуць, што перасталі нядаўна даплачваць спецыяльную суму курыльшчыкам, адміністрацыя абавязковы падарунак у некалькі соцень долараў на нараджэнне дзіцяці. Адукацыя па-ранейшаму бясплатная, хаця і прыходзіцца браць пазыку ў банку для арэнды студэнту кватэркі і на жыццё. Гультаі наогул могуць сядзець да пенсіі на сацыяльнай дапамозе ў памеры 500 долараў. Пенсію могуць плаціць і тым, хто наогул не працаваў ніводнага дня — трэба толькі дажыць да 67 гадоў. Усе крэдыты, любая запазычанасць перад банкамі пры дасягненні пенсійнага ўзросту наогул анулююцца.

Прыемным адкрыццём было і даўно дасягнутае ў краіне грамадства ўсеагульнага дабрабыту, які лаялі некалі нашы палітэканомы. Капіталізм на гэтай зямлі аказаўся сапраўднай сацыяльнай сістэмай, якая адпавядае рацыянальнай прыродзе чалавека, дзе маральнай мэтай жыцця ўяўляецца уласнае шчасце, а самай прыстойнай дзейнасцю – творчасць. Магчыма, прастата і зразумелы сэнс жыцця еўрапейцаў парой выклікаюць смутак – усё расапісана наперад: гімназія, каледж, універсітэт, фірма, бізнес. Аднак за гэтай прастатой хаваецца галоўнае – чалавек у адказе толькі перад самім сабой, і таму ён абавязаны быць шчаслівым. Шкада толькі, што менавіта гэтае разуменне дакладнасці заходняга жыцця прыводзіць да частых стрэсаў.

Выявілася, што Швецыя сёння – амаль адзіная краіна кантыненту, куды ляшчэ можна паехаць тым, хто жадае пакінуць Беларусь. Статус бежанца лёгка атрымліваюць выхадцы з краін у стане вайны (Блізкі Усход, Афганістан), калі кандыдатаў праследуюць на этнічнай ці рэлігійнай глебе (яўрэйская эміграцыя і курды з Турцыі), калі пагражаюць як прадстаўнікам секс-меншасцяў. Адносіны да бежанцаў з Беларусі адмоўныя. Шведы ўпэўненыя, што падрабіць ці купіць любыя дакументы ў нашай краіне зусім проста і нядорага. Таму замест таго, каб разбірацца з кожным асобным выпадкам, гавораць усім "не". Яны лічаць, што ў адрозненне ад Турцыі у нашай краіне жыццю асабліва нішто не пагражае. А колькасць міліцыі ў нас такая, што можа трайным патрулём абараніць кожнага асобнага грамадзяніна. Але прыехаць і застацца ў Швецыі для нашага чалавека ўсё ж можна – праз шлюб і халодны разлік. Гэта адзіны спосаб атрымаць шведскі пашпарт.

Пасля рэгістрацыі шлюбу іншаземцу адразу выдаецца дазвол на работу, вядома, нізкааплачваемую, без ведання мовы. Дастаткова прабыць два гады – і грамадзянства ў краіне забяспечана. А там можна і разводзіцца. Каштуе гэтае задавальненне да 15 тысяч долараў. Але чым бліжэй да запаветнай мары, тым стаўкі растуць – крыўдна, калі партнёр ці партнёрка кінуць з-за нейкіх 4000 долараў на парозе эміграцыйнай службы. Ёсць і шлюбы па каханні, і шчаслівыя шведска-славянскія сем'і, і ўдачныя шлюбна-фінансавыя кантракты, якія завяршыліся да ўзаемнага задавальнення. "Рускія" нявесты па папулярнасці ўступаюць толькі нявестам з Тайланда – нашыя жанчыны прыгожыя, добрыя гаспадыні і повары, не спешчаныя, з дзецьмі ўмеюць абыходзіцца. Для жаніхоў няважная наяўнасць дзяцей, тут іх сапраўды любяць.

Бываюць у Швецыі і скандалы. Восенню за дзень-другі да парламенцкіх выбараў мясцовае ТБ паказала зняты скрытай камерай матэрыял, як адзін з прадстаўнікоў буржуазных партый груба выказаўся ў адрас "генетычнага смецця", што прынеслі ў Швецыю бежанцы з Афрыкі і Блізкага Усходу. Гэта стала правалам усёй перадвыбарнай кампаніі правых. Скандаламі завяршыліся таксама апавешчаныя матэрыялы аб пенсіях дырэктару аднаго з мясцовых канцэрнаў у суме 80 мільёнаў долараў і лідэрам прафсаюзаў. Хаця закон парушаны і не быў, але атрымліваць такія вялікія грошы ў краіне роўных магчымасцяў не маральна.

Стакгольм сапраўды прыгожы і непаўторны горад. І сустрэча з ім у пярэдадні Новага года аказалася сапраўдным незабыўным падарункам.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

## Тыпы віруса грыпу

Ёсць тры тыпы вірусаў грыпу А, В і С. Гэтыя вірусы некалькі адрозніваюцца па сваёй будове і выклікаюць захворванні рознай цяжкасці. Вірус грыпу А выклікае найбольш цяжкія формы (у адрозненне ад тыпаў В і С, якія пераносяцца чалавекам лягчэй).

## Кашаль і чханне

Самы распаўсюджаны шлях перадачы інфекцыі – паветрана-капельны. Пры кашлі, чханні, размове з насаглоткі выкідваюцца часцінкі сліны, слізі, макроты з хваробатворнай мікрафлорай. На кароткі прамежак часу вакол хворага ствараецца заражаная зона. Далёкасць рассейвання аэразольных часцінак можа дасягаць 2-3 м.

## Ускладненні і іх прыкметы

• Запаленне вуха – боль у вуху, парушэнне слыху.
• Запаленне носа і прыдаткавых пазух – насмарк, пачуццё закладзенасці носа, галаўны боль.
• Запаленчае захворванне мышцаў – бывае ў дзяцей, мышачныя болі.
• Запаленне лёгкіх – дрыжыкі, тэмпература 38-38,5 градусаў, кашаль, болі ў грудной клетцы пры кашлі і на ўдыху.
• Запаленне спіннога мозга – моцны боль у зоне паражэння, параліч ног, поўная ці частковая страта адчувальнасці.
• Запаленне галаўнога мозга і яго абалонак – павышэнне тэмпературы, галаўны боль, паралічы, расстройства памяці.
• Запаленчае захворванне мышцаў сэрца – сардэчная недастаковасць.

### Як працякае грып

Інкубацыйны перыяд можа цягнуцца да 5 дзён. Калі грып працякае без ускладненняў, то востры перыяд хваробы працягваецца 3-5 дзён і канчатковае выздараўленне наступае праз 5-10 дзён. Аднак пасля грыпу часта ўзнікае паўторнае інфіцыраванне бактэрыямі ці іншымі вірусамі, бо арганізм аслаблены хваробай. Найбольшыя ахвяры грып збірае сярод пажылых людзей.

■ ДЗЕЦІ

# «Лекі» на падаконніку



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**МАЛАДЗЕЧНА. Амаль увесь дзень дзіця знаходзіцца ў садзе. Там яго вучаць, кормяць і... засцерагаюць ад грыпу.**

Яшчэ ў кастрычніку бацькі сярэдняй групы з дзіцячага сада №29 прынеслі ў сад цыбулю і часнок. Цяпер іх даюць есці дзецям. Цыбуля добра прарасла, што дазваляе кожны дзень "збіраць" з яе ўраджай. Пасадзілі і пятрушку. За раслінамі дапамагаюць даглядаць дзеці.

Акрамя "жывых" лекаў, ад грыпу дзецям даюць піць травяныя чаі з уласнага фітабара.

Ірына РАБУШКА.

# Прафілактычныя меры засцярогі

**Вакцынацыя (прышчэпка)** з'яўляецца найбольш эфектыўным прафілактычным сродкам. Устойлівасць да хваробы пасля прышчэпкі павышаецца ў два разы і захоўваецца на працягу года. Лепш яе рабіць у канцы восені ці ў пачатку зімы, бо, каб выпрацаваўся імунітэт, трэба 2-3 тыдні.

З лекавых прэпаратаў самы лепшы **антыгрыпін І, ІІ, ІІІ** – гомеапатычны сродак для лячэння і прафілактыкі грыпу і вострых рэспіраторных захворванняў. У ім ёсць выцяжка з траў і мінеральных рэчываў, прыгатаваны з дапамогай класічных гомеапатычных сродкаў. Добрым сродкам з'яўляецца **амантадын і рэмантадын** – супрацьвірусныя прэпараты, якія тармозяць размнажэнне віруса ў клетках дыхальных шляхоў, а таксама **арбідол** – прэпарат, які актывізуе ўласныя сістэмы арганізма.

Да прафілактычных сродкаў адносяцца і **вітаміны** – аскарбінавая кіслата і полівітаміны, якія павышаюць супрацiўляльнасць арганізма. Вітамін С прымяняюць па 0,5-1 г 1-2 разы ў дзень. Найбольшая колькасць вітаміна С утрымлiваецца ў соку кіслай капусты, цытрусавых – лімонах, мандарынах, апельсінах, грэйпфрутах. Карысная салата са свежай капусты з алеем, якая ўтрымлівае вялікі запас вітамінаў і мікраэлементаў.

У перыяд эпідэміі грыпу і прастудных захворванняў можна прымаць **часнок** па 2-3 зубчыкі штодзённа. Дастаткова пажаваць некалькі хвілін зубчык часнаку, каб поўнасцю ачысціць поласць роту ад бактэрый. Часнок можна замяніць рэпчатай цыбуляй.

Адным з найбольш распаўсюджаных і даступных сродкаў для прафілактыкі грыпу з'яўляецца **ватна-марлевая павязка.** Усім тым, каму даводзіцца мець зносіны з людзьмі (дактарам, прадаўцам), рэкамендавана насіць маскі.

Яшчэ адзін недарагі сродак прафілактыкі – **аксалінавая мазь для носа.**

Неабходна памятаць, што інфекцыя лёгка перадаецца праз брудныя рукі, бытавыя прадметы. Таму ў час эпідэміі трэба мыць рукі часцей, асабліва калі вы даглядаеце за хворым.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# Ці трэба рабіць прышчэпку ад грыпу?



**Юрый Бядрыцкі, выкладчык фізвыхавання:**

– Не ведаю. Я рабіў прышчэпкі і прымусова, і добраахвотна. Пасля прышчэпкі не хварэў, нічога благога ад яе не адчуваў. Толькі не ведаю, што больш умацоўвае мой імунітэт: прышчэпка ці спорт.



**Галіна Шчукіна, выхавальніца:**

– Так. Ва ўсіх зараз арганізм аслаблены. А калі і захварэеш пасля прышчэпкі, то хвароба пройдзе лягчэй. Я сёлета прышчэпку не зрабіла, аб чым шкадую. Буду "ратавацца" мёдам, часнаком і брусніцамі.



**Ірына Блізгарова, гаспадыня:**

– Прышчэпкі рабіць варта. Сваё дзіця прышчэпліваю і задаволена вынікам.

На сябе ж часу не хапае. Ні на прышчэпку, ні да ўрача няма калі схадзіць. Ем цыбулю, часнок ды ўсё.



**Ала Жыхар, супрацоўніца ГРАУС:**

– Трэба. Калі захварэеш, на лячэнне грошай многа ідзе. Я прышчэпку не зрабіла. Не ведаю, дзе і як прышчапіцца. У паліклініцы такія вялікія чэргі! Застаецца піць травы і есці лімоны.



**Уладзімір Гардынец, беспрацоўны:**

– Прышчэпка вартая для ўсіх. Але сабе не раблю прышчэпку, бо не хварэю. Прафілактыкай таксама не займаюся. Такі я безадказны.

Фотаапытанне падрыхтавала Ірына РАБУШКА.

■ ПРАФІЛАКТЫКА

# Не прышчэпішся – загрыпуеш?

**ВАЛОЖЫН. Раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі (РЦГіЭ) атрымаў 2300 доз расійскай вакцыны супраць грыпу. Жыве ў райцэнтры каля 45 тысяч чалавек. Вакцынацыя насельніцтва ўжо закончылася.**

Доктар-эпідэміёлаг РЦГіЭ **Таццяна Турпакова** лічыць, што столькі вакцыны дастаткова. Гэтую прышчэпку робяць з 7 гадоў. Імунітэт выпрацоўваецца 1 месяц. У першую чаргу прывілі хворых дзяцей і дарослых з хранічнай паталогіяй дыхальнай, сардэчна-сасудзістай, эндакрыннай сістэм. А таксама прывілі дзяцей з трох закрытых дзіцячых устаноў раёна.

Рабіць прышчэпкі пажадана ўсім медыцынскім работнікам. Пажадана прышчэпка ад грыпу і ВІЧ-інфіцыраваным.

Аб тых, хто сам жадае зрабіць прышчэпку ў РЦГіЭ, не чулі. Калі такія ёсць, ім раяць зрабіць гэта за грошы ў Мінскіх медыцынскіх установах. Рабіць прышчэпкі можна не ўсім. Напрыклад, нельга з вострымі інфекцыйнымі, анкалагічнымі захворваннямі... На кожны від вакцыны свае супрацьпаказанні. Да таго ж, чалавек, які зрабіў прышчэпку, усё роўна можа захварэць грыпам. "Але, — гаворыць Т.Турпакова, — ён пераносіць хваробу значна лягчэй. Наогул, пасля 40 гадоў імунная сістэма чалавека ўжо дае збоі".

Эпідэміёлагі гавораць, што іншы раз і варта перахварэць грыпам. Ён дае ўстрэсванне імуннай сістэме, арганізму. Калі чалавек перахварэе, то імунітэт будзе мацнейшы, чым калі зрабіць прышчэпку.



Працэдурны кабінет Маладзечанскай гарадской паліклінікі. Прышчапляць ад грыпу пажадана ўсіх медыцынскіх работнікаў.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

У буйнейшыя гарады нашага рэгіёна і тыя, што бліжэй да Мінска, грып даходзіць хутчэй. Звычайна не хварэюць на грып з красавіка па верасень. Падчас эпідэміі грыпу колькасць прастудных захворванняў павялічваецца прыкладна ў 2 разы.

З кастрычніка гэтага года ў рэгіёне пакуль не зарэгістраваныя выпадкі захворвання на грып. Статыстыка захворваемасці за апошнія гады выглядае наступным чынам:

| Горад і раён | 2000 год | 2001 год | 2002 год |
|---|---|---|---|
| Маладзечна і раён | 8220 | 3883 | 12229 |
| Вілейка і раён | 1473 | 315 | 3084 |
| Валожын і раён | 990 | 554 | 554 |
| Смаргонь і раён | 2285 | 1121 | 3168 |
| Астравец і раён | 553 | 362 | 983 |
| Ашмяны і раён | 1289 | 536 | 1875 |
| Мядзел і раён | 970 | 141 | 1090 |
| **Усяго ў рэгіёне** | **15780** | **6912** | **22983** |

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

# Лячэнне назначыць доктар

**Пры першых жа прыкметах хваробы лепш адразу звярнуцца да доктара. Мы прывыклі, што грып – гэта проста прастуда, на самой жа справе ён вельмі небяспечны. Асабліва важна своечасова звярнуцца за медыцынскай дапамогай, калі захварэла дзіця ці пажылы чалавек.**

Рэкамендавана піць як мага больш вадкасці: морсу, кісялю з маліны, брусніц, журавін – гэтыя ягады валодаюць жарапаніжаючым сродкам.

Пры вострых рэспіраторна-вірусных захворваннях і пры грыпе лякарства па народных рэцэптах можна прыгатаваць самастойна.

**Напітак з шыпшыны.** Сухія ягады шыпшыны растаўчы, заліць вадой і пракіпяціць. Каструлю з адварам захутаць і настойваць 8-10 гадзін. Піць па адной шклянцы праз кожныя 2-3 гадзіны на працягу сутак.

**Маліна звычайная.** Сок маліны з цукрам – добры сродак пры высокай тэмпературы. Можна прыгатаваць настой з сухіх пладоў.

Ліпа з калінай. 2 сталовыя лыжкі сумесі кветак ліпы і пладоў каліны заліць дзвюма шклянкамі кіпеню. Кіпяціць 5-10 хвілін, затым працадзіць. Піць гарачым на ноч па 1-2 шклянкі.



Маладзечанская дзіцячая паліклініка. Прыём вядзе Аляксандр Гулак.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Піхтавае масла.** Уціраць масла ў каўняровую зону спіны, грудзей, рабіць масаж ступней, інгаляцыі. Пры насмарку можна закапаць па адной каплі масла ў кожную ноздру, пры кашлі – на корань языка.

**Рэдзька** (выкарыстоўваецца пры кашлі). Нарэзаць сырую рэдзьку вельмі тонкімі ломцікамі і пасыпаць іх цукрам. Салодкі сок, што з'явіўся, прымаць па сталовай лыжцы кожную гадзіну.

■ ХВАРОБА

## Чаму грып патрабуе ўвагі?

● **Распаўсюджанасць.** У перыяд штогадовых эпідэмій грыпу нават у нашыя дні хварэе да 15 працэнтаў насельніцтва зямнога шара. Больш за ўсё ад эпідэмій пакутуюць жыхары вялікіх гарадоў.

● **Небяспека.** Эпідэміі грыпу суправаджаюцца вялікай колькасцю смяротных выпадкаў.

● **Ускладненні.** У захворванне ўцягваюцца многія органы і сістэмы арганізма (дыхальная, сардэчна-сасудзістая, нервовая, страўнікава-кішэчны тракт).

● **Непрадказальнасць.** Важная асаблівасць вірусаў грыпу тыпаў А і В – іх зменлівасць. Рэгулярна ўзнікаюць новыя разнавіднасці гэтых вірусаў, ад якіх насельніцтва не мае імунітэту.

● **Эканамічныя страты.** На лячэнне грыпу і яго ўскладненняў штогод у свеце расходуецца каля 14,6 мільярда долараў.

■ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

## Гісторыя хваробы

З больш чым сотні вірусаў, якія выклікаюць інфекцыйныя захворванні верхніх дыхальных шляхоў, самым вядомым і распаўсюджаным з'яўляецца вірус грыпу. Узбуджальнік захворвання – вірус грыпу – адкрыты ў 1931 годзе. Яшчэ ў першай трэці XX стагоддзя ўзбуджальнікам грыпу лічылася палачка Афанасьева-Пфейфера.

У 1933 годзе ў Англіі выдзелілі з лёгкіх хамячкоў, якіх заразілі грыпам ад людзей, вірус грыпу А. Вірус В адкрылі ў 1940 годзе. Праз 7 гадоў выдзелілі новы тып віруса грыпу – С. Акрамя такога літарнага абазначэння некаторыя "значныя" вірусы атрымалі іншыя імёны.

● **"Іспанка"**, выкліканая вірусам H1N1, у 1918-1920 гадах. Ад "іспанкі" памерлі звыш 20 мільёнаў чалавек.

● **"Азіяцкі грып"**, выкліканы вірусам H2N2 у 1957-58 гадах.

● **"Ганконгскі грып"**, выкліканы вірусам H3N2 у 1968-69 гадах.

● **"Рускі грып"**, выкліканы вірусам H1N1 у 1977-78 гадах.

Па рашэнні экспертаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ў міжнароднай тэрміналогіі інфекцыйных хвароб была прынята назва "грып". Раней гэтую хваробу называлі яшчэ інфлюэнца, ці грыпус.

■ ПРАЎДА І МІФЫ

## Што дапамагае ад грыпу

● **"Надзень паліто, а то прастудзішся!".** Не абавязкова, даследаванні паказалі, што ахаладжванне арганізма часцей прыводзіць да развіцця пнеўманіі, чым прастуды і грыпу.

● **Ужыванне алкаголю.** Падчас прастуды трэба пазбягаць ўжывання алкаголю, бо гэта паслабляе імунітэт.

● **Праца на холадзе.** Калі вы прастудзіліся і ходзіце на работу ці ў школу пры мінусавой тэмпературы, то вам не трэба баяцца таго, што сімптомы ўсугубяцца. Намнога большая рызыка ў такім выпадку – распаўсюджванне інфекцыі сярод вашых калег.

# Каляды паганскія і хрысціянскія

**З даўніх часоў Сонцу як адзінай крыніцы цяпла і жыцця на Зямлі розныя народы надавалі пэўнае значэнне: па сонцу звяралі час, да яго поўнага кругазвароту вакол Зямлі прымяркоўвалі гадавыя календары, а ў нашых продкаў-язычнікаў сонейка ўвогуле ўшаноўвалася як адно з галоўных боістваў.**

Вярхоўным богам язычнікаў лічыўся Сварог – бог неба. Яго дзеці ці "сварожычы" – Даждзьбог (Сонца), Хорс (сонечны агонь) і Пярун (маланкавы агонь) займалі прамежкавае месца паміж людзьмі і небам.

Дакладна вядома, што нават у неславянскіх народаў меліся сугучныя па назве і часу святкаванні. Большасць іх традыцый была вельмі моцна збеднена ці знікла наогул, а вось беларускія Каляды змаглі захаваць свае язычніцкія карані нават у эпоху хрысціянства.

## Каляды размежаваліся

У залежнасці ад веравызнання Каляды на Беларусі прыпадаюць на розныя даты: у католікаў з 24 снежня па 6 студзеня і ў праваслаўных вернікаў з 6 па 21 студзеня. Але язычніцкія Каляды былі адзінымі. Сённяшняе размежаванне па часе звязана з гісторыяй развіцця галін хрысціянства на Беларусі.

Змагаючыся з язычніцкімі традыцыямі напачатку свайго з'яўлення, хрысціянства змагло дабіцца дзяржаўнай падтрымкі і накласці афіцыйную забарону на "паганскія" абрады. Але са свядомасці беларусаў памяць стагоддзяў выкрасліць было немагчыма, і Каляды як свята працягвалі існаваць у народным асяродку. Узмацненне хрысціянства прыводзіла да прымеркавання народам сваіх паганскіх ігрышчаў да календароў хрысціянскіх канфесій, тым больш, што менавіта на дні зімовага сонцастаяння прыпадае нараджэнне Ісуса Хрыста. Потым, ужо з выкарыстаннем у хрысціянстве адначасова грыгарыянскага (каталікі) і юліянскага (праваслаўныя) календароў, адбылося "падваенне" працягласці язычніцкіх Каляд. Аднак і сёння гэтае свята не страціла свайго значэння і сэнсу. У незалежнай Беларусі Каляды сталі самастойным дзяржаўным святам, выйшаўшы з "навагодняга" ценю часоў СССР.

## Вялікая куцця

Нягледзячы на супадзенне па часе з хрысціянскімі святамі, язычніцкія абрады працягваюць існаваць побач з хрысціянскімі традыцыямі. Гэта дазваляе беларускім калядным святам сумяшчаць "пад адзіным дахам" вельмі рознапланавыя і рознамэтавыя дзеі. Адпаведна сучаснаму календару, у залежнасці ад веравызнання, 24 снежня ці 6 студзеня нашы продкі сустракалі Каляду. Хутчэй за ўсё яна выступала як Божая Маці Сонца, у чый гонар у кожнай хаце рабілася калядная вячэра. У лік абавязковых страў каляднай вячэры ўваходзіла куцця і бліны, а ўвогуле на стол ставілі як мага больш страў. Таму ў народзе гэты вечар часта называлі "вялікай куццёй". Уся ежа павінна была быць поснай, а калі і запраўлялі штось, дык толькі канапляным ці сланечнікавым алеем. Вячэраць пачыналі з узыходам на небе першай вячэрняй зоркі. Абавязкова папярэдне запальвалі на куце свечку і маліліся богу. У хрысціянскай традыцыі свята Раства Хрыстова таксама пачынаецца з узыходу першай зоркі, якая абвяшчае пра сканчэнне піліпаўскага паста і нараджэнне Хрыста. Перад абразамі запальваюць свечкі, моляцца богу.



Маладзечна, 1997 год. Каляды ў сям'і Бялковых. На здымку – Коля і Ваня Бялковы. Фота Андрэя КАСКІНА.




## Каляды

Непасрэдна Каляды святкавалі 25 снежня (7 студзеня). Святочнае застолле праходзіла як у сям'і, так і з запрашэннем у госці сваякоў. Пасля доўгага перадкаляднага посту, які, акрамя сваіх сакральных функцый, выконваў і ролю перыяду эканоміі ежы, скаромныя стравы і гарэлка на стале ў пэўнай ступені падкрэслівалі ўрачыстасць і значнасць застолля.

З гэтага ж дня, вечарам, пачыналі хадзіць калядоўшчыкі з абрадамі слаўлення і добрых зычэнняў гаспадарам і членам іх сямей. Рэпертуар імправізаванай трупы ўключаў шматлікія здравіцы і ўхваленні на адрас гаспадароў, песні з пажаданнямі здароўя, багацця і дабрабыту. Як сімвал свята, з сабой насілі зорку на палцы. Абавязкова ў калядаванні прымала ўдзел і каза. За песнізычэнні ўсякі гаспадар імкнуўся шчодра надзяліць спевакоў, тым больш што калядаванню ў народзе са старадаўніх часоў надаваўся магічны сэнс. Лічылася, што праз рытуал абыходжання калядоўшчыкамі гаспадарчых падворкаў можна было заручыцца падтрымкай багоў на ўвесь будучы год. Такім чынам калядоўшчыкі выступалі не толькі як артысты, але і пасрэднікі паміж богам і людзьмі.

Паявілася гэта з дахрысціянскіх часоў, калі падарункі калядоўшчыкам найперш адрасаваліся вярхоўным і родавым боствам і добрым духам. Тады частка такіх паднашэнняў адносілася спевакамі да месцаў пакланення Сварогу, Даждзьбогу, Перуну, Вялесу, Роду і іншым язычніцкім багам.

На тэрыторыі Заходняй Беларусі, пераважна ў каталікоў, абыходы хат рабілі "тры каралі" – трое мужчын у своеасаблівых касцюмах.

Падчас Каляд на плошчах, базарах і іншых мнагалюдных месцах выступалі самадзейныя артысты-батлеечнікі. Яны насілі з сабой двух-, трох'ярусную скрыню, якая па форме ці размалёўцы нагадвала хатку альбо царкву. У ёй з дапамогай лялек паказвалі спектаклі, пераважна на біблейскія тэмы.

## Другая і трэцяя куцця

Другая куцця адзначалася на шчодры вечар – 31снежня (13 студзеня), якраз пад Новы год. 5(18) студзеня беларусы спраўлялі трэцюю куццю, якую называюць "посная" або "вадапусная". У гэты вечар на куццю гаспадар спачатку зваў Мароза, пасля чаго ўся сям'я садзілася есці. Мароза імкнуліся задобрыць, каб ён не быў злы, а палагодней і сцішыў свой нораў. Калі на наступны дзень надвор'е было менш сцюдзёным у параўнанні з папярэднім днём, то лічылі, што марозу пачастункі гаспадароў спадабаліся. Да трэцяй куцці заканчваліся і хаджэнні калядоўшчыкаў.

У залежнасці ад мясцовых традыцый на гэтую куццю ці зранку наступнага дня гаспадыня пякла бліны, а гаспадар з першым спечаным блінам ішоў адпісваць Каляды. Ён ставіў крыжыкі крэйдай над парогам хаты, варотамі падворка, пуні, хлява і іншых пабудоў. Увогуле ж апошнім калядным днём у нашым краі лічыцца 21 студзеня, калі амаль паўсюдна адзначаліся провады Каляд.

Калядная магія ўключала ў сябе ахвяры багам і духам: рэзалі свіней, птушку – "пускалі кроў". На святочным стале нашых продкаў абавязкова стаяла засмажаная галава такой ахвяры. Бліны, што пяклі на ўсе тры калядныя вечары, таксама выступалі ахвярамі. Першы спечаны блін з кожнай куцці пакідаўся да канца Каляд, а ў апошні дзень зранку скормліваўся жывёле і птушцы. Гэта павінна было забяспечыць добры прыплод.

## Варажба

Асобны культурны пласт Каляд складае варажба. Напрацягу ўсіх Каляд беларускія дзяўчаты варажылі аб будучым замужжы і сваёй долі.

Гурток сяброўак мог падысці да сабакі і адначасова кінуць яму святочныя аладкі. Чыя аладка будзе з'едзена першай, тая першая і замуж выйдзе.

Часта перапісвалі на паперку імёны ўсіх хлопцаў, якіх мела на прыкмеце дзяўчына, а потым гэтая паперка клалася пад падушку. Верылі, што той са спіса, хто прысніцца ў перадНавагоднюю ноч, і стане яе мужам.

Магла дзяўчына таксама класціся спаць і не разуваць адну нагу. Пры гэтым яна прыгаворвала "Хто прыйдзе маю нагу разуваць, з тым век векаваць!" Калі ж ноччу яна бачыла ў сне хлопца, што яе разуваў, то гэта быў яе суджаны.

Шматлікія віды варажбы заснаваныя на значэнні парных альбо няпарных лікаў: раніцай дзяўчаты прыносілі ў хату дровы і лічылі, колькі іх, ахаплівалі рукамі агароджу ў двары і таксама лічылі "штыкеціны" – калі пры падліку атрымліваўся парны лік, гэта прадказвала, што і дзяўчына напрацягу года будзе ў пары.

Варажылі таксама на сухой траве, асабліва на саломе, якая, як лічылася, на Каляды набірала вялікую чароўную сілу. Дзяўчаты станавіліся спіной да снапа і выбіралі адну з павісных зверху саломін, задраўшы галаву. Выбраную саломіну патрэбна было моцна ўхапіць зубамі і асцярожна выцягнуць. Калі на другім канцы аказваўся колас, то значыць, дзяўчына выйдзе замуж за багатага. А вось калі колас абрываўся, значыць, усё жыццё з бедным гараваць прыйдзецца. Таму, хоць і не ў грашах шчасце, цягнуць саломіну імкнуліся павольна, каб колас не абарваўся.

Мажліва таксама варажыць на зблытанай саломе. Некалькі дзяўчат збіралася разам і кудлачыла, мяшала і пераміНала кучу прынесенай у хату саломы. Атрыманы камяк клалі на стол, а на яго стаўлялі патэльню з вадой, на дне якой ляжаў камень. Затым кожная з сяброўак выцягвала сабе саломіну, што было не проста зрабіць. Саломіны былі моцна перакручаныя і выцягваліся з вялікімі цяжкасцямі. Салома шамацела, вада пераплівалася праз край, а камень скрыгатаў па дне патэльні. Дзяўчаты прыслухоўваліся да гэтых гукаў і ўгадвалі ў іх чалавечыя галасы, па якіх імкнуліся даведацца пра будучыню.

У вялікай і шумнай кампаніі варажылі на саломе ці трыснягу крыху па-іншаму. Удзельнік працэсу браў цотную колькасць саломін (не менш за шэсць) і звязваў іх у пук. Пасля на адным канцы парамі звязваліся калоссі, а на другім – камлі саломін. Потым пук развязвалі пасярэдзіне і глядзелі, што атрымалася. Калі звязаныя саломіны ўтваралі суцэльнае кола, то варажбіта чакала вялікая ўдача. Калі ж атрымліваўся разамкнуты ланцужок ці некалькі асобных колцаў, то наступны год мог прынесці непрыемнасці.

Збіралі таксама бярэмя хвойных галінак. Потым, у ноч на Раство, сяброўкі збіраліся разам і раскідвалі галінкі па падлозе. Пасля, зажмурыўшыся ці завязаўшы вочы, каб не падглядаць, кожная брала па адной. Калі на выбранай галінцы кара была роўная, то жаніх будзе прыгожым і добрым, калі кара трывалая – заможным, шурпатая кара прадказвала чалавека надзейнага, але не прыгажуна. Калі кара была месцамі абадраная, то будучы выбраннік быў не надта багаты. Тоўстая галінка гаварыла пра сілу будучага мужа.

Выкарыстоўваўся для варажбы і даволі распаўсюджаны звычай класці сена пад абрус, якім засцелены стол. Варажылі за сталом, выцягваючы з-пад абруса сцябліны пакладзенага сена. Выцягне дзяўчына зялёную сцябліну – чакае яе каханы і хутка вяселле. Пачарнелая сцябліна азначала сардэчныя неўладкаванні і канец шлюбных намераў: застанецца дзяўчына ў дзеўках сядзець. Лічылі таксама, што доўгая сянніна паказвае на высокі лён улетку.

У сельскай мясцовасці карысталіся таксама даволі арыгінальным відам варажбы на грэбені. Дзяўчына падвешвала на ноч у хляве свой грэбень. Ноччу суджаны павінен быў ім прычасацца. Па колеры застаўшыхся на грэбені валасоў уранку рабілася высноўа аб будучым мужы.

## Калядныя прыкметы

Існуе таксама і шмат калядных прыкмет. На Раство завіруха – будуць добра раіцца пчолы. Шэраль на дрэвах – ураджай на хлеб. Яркае і зорнае неба на першую і другую куццю абяцала, што ў лесе будзе добры ўраджай грыбоў, на полі – добры ўмалот, у жывёлы – добры прыплод. Калі куцця зварылася добра і была смачнай, то гаварылі, што будзе добры ўраджай жыта. А вось шыць на Каляды катэгарычна забаранялася: "Святое Раство – людзям прычаство."

**Вадзім ЗУБРЫЦКІ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Мячы ад прэзідэнта ФІФА

**МАЛАДЗЕЧНА. Хлопцы 1990 г.н. (трэнер Аляксандр Гармаза) перамаглі ў Кубку абласной федэрацыі.**

На папярэднім этапе яны дома перамаглі каманду з Заслаўя 8:4. Фінальны турнір праходзіў у Барысаве. Вось вынікі матчаў з сапернікамі адпаведна з занятымі месцамі у кругавым турніры – Чэрвень 10:5, Барысаў 9:0, Крупкі 4:4, Заслаўе 4:1. Вылучаліся **Ягор Гармаза** (8 галоў, лепшы нападаючы), **Юрый Малько** і **Сяргей Космач** (абодва забілі па 6 галоў), **Ігар Нарожнік**, **Артур Долмат**.

7-8 снежня ў Мінску прайшоў рэспубліканскі турнір сярод лепшых каманд кожнай вобласці і горада Мінска. У групе маладзечанцы згулялі са сталічнай "Зменай" 1:5, з мазыранамі 7:2 і з гродзенцамі 1:5. У стыкавым матчы за пятае месца па пенальці саступілі брэстаўчанам пасля 3:3 у асноўны час.

Матч рэспубліканскага турніру праходзіў у зале ў Драздах, але быў прымеркаваны ён да візіту ў Беларусь прэзідэнта ФІФА Ёзэфа Блатэра. Падчас урачыстага адкрыцця каманды-удзельнікі былі пастроены ў манежы, да іх з вітальным словам звярнуліся высокія афіцыйныя футбольныя асобы, а потым яшчэ Блатэр падарыў кожнай камандзе па 20 мячоў "Fevernova" (падобнымі гулялі на чэмпіянаце свету).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ БІЛЬЯРД

## «Караліна» ўвайшла ў васьмёрку

**Прайшлі рэспубліканскія камандныя спаборніцтвы, так званая Ліга клубаў Рэспублікі Беларусь. У Мінску сабраліся 16 каманд. На першым этапе, 7-8 снежня, яны былі падзелены на чатыры групы.**

Маладзечанскую "Караліну" прадстаўлялі трэнер клуба мінчанін **Віталь Жарко**, а таксама лепшыя ў горадзе більярдзісты **Ігар Агузаў** і **Уладзімір Патапаў**. Канкрэтных сапернікаў ім вызначала сляпая жараб'ёўка.

У матчы з жодзінскім БелАЗам кожны з іх выйграў. У сустрэчы з мінскай "Пірамідай" перамог толькі Жарко, таму гэты матч аказўся прайграным. Супраць яшчэ аднаго сталічнага клуба "Шчаслівага ўдару" вызначыліся перамогамі Жарко і Патапаў.

Такім чынам "Караліна" выйшла ў чвэрцьфінал, дзе 14 снежня гуляла з мінскім "Трактарам". Патапаў саступіў 1:4 лідэру праціўнікаў Антону Падсадніку. Агузаў саступіў 1:4. Жарко ў гэты час меў перавагу 2:1, але далей змагацца сэнсу не было.

Прызёрамі сталі: 1. "Піраміда". 2. "Карамболь" (Віцебск). 3. "Трактар" і "Класік" (Мінск).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КАРАТЭ

# Адкрыты чэмпіянат Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Прайшоў адкрыты чэмпіянат горада па каратэ сярод дзяцей і падлеткаў 8-15 гадоў.**

Удзельнічалі прадстаўнікі 6 спартыўных клубаў. Наш рэгіён прадстаўлялі маладзечанскія клубы "Сакура", "Будо", "Белы журавель" і "Дзяржынец" з Вілейкі.

Удзельнікі спаборнічалі ў двух раздзелах – ката (паказвалі набор прыёмаў) і кумітэ (спарынг). Чэмпіёны ў сваіх катэгорыях атрымалі медалі, прызёры – гадзіннікі і сувеніры. І кожны, хто ўзняўся на п'едэстал – дыпломы.

Прадстаўнікі рэгіёну перамаглі ў наступных катэгорыях. У раздзеле ката сярод хлопчыкаў 10-11 гадоў першым стаў **Толя Крук** ("Будо"). У раздзеле кумітэ медалі атрымалі **Наташа Цялюкіна** ("Сакура", 10-13 гадоў, да 35 кг), **Андрэй Буймола** ("Белы журавель", 9 гадоў), Толя Крук (да 40 кг), **Максім Вяль** ("Сакура", 10-11 гадоў, цяжэй за 40 кг), **Паша Баркоўскі** ("Будо", 12-13 гадоў, да 40 кг), **Лёша Багдановіч** ("Дзяржынец", 12-13 гадоў, да 45 кг), **Міша Семашкевіч** ("Сакура", 12-13 гадоў, цяжэй за 45 кг).

У неафіцыйным камандным заліку перамог мінскі клуб "Алімп".

Расказаў пра сябе адзін з пераможцаў Максім Вяль.

У спорт Максім прыйшоў 4 гады таму. Гаворыць, у секцыю каратэ прывялі аднакласніцы. За гэты час сабраў калекцыю медалёў на розных спаборніцтвах. Максім са спартыўнай сям'і. Бацька – майстар спорту па дзюдо, поўнасцю падтрымлівае захапленне сына і яго жаданне стаць прафесійным спартсменам. Гаворыць, што пры жаданні справіцца з трыма-чатырма аднагодкамі. Але навыкі каратэ прымяняць на вуліцы не прыходзілася. У вольны час любіць гуляць на камп'ютэры. Любімая гульня "Контр Страйк". Трэніруецца па 2 гадзіны ў дзень, акрамя нядзелі. Кніжак амаль не чытае.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



**Пераможца адкрытага чэмпіянату Маладзечна па каратэ Максім Вяль праз хвіліну пасля паўфінальнага боя. Нарадзіўся 23 мая 1991 года ў Маладзечне. Займаецца каратэ 4 гады ў клубе "Сакура" ў трэнера Сяргея Хадасевіча.**

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ БАСКЕТБОЛ

## Алімпійскія дні моладзі

У Алімпійскіх днях моладзі прымалі ўдзел хлопцы 1985-86 г.н. Маладзечанцы са СДЮШАР-1 (трэнер **Анатоль Яфімаў**) перамаглі ўсіх трох сапернікаў (Барысаў, Жодзіна, Заслаўе) на паўфінальным турніры ў Барысаве. У складзе каманды вылучаліся **Павел Лінкевіч**, **Міхаіл Ванглоўскі** і **Вячаслаў Лукашэвіч**. Праз тыдзень на фінальным турніры ў Салігорску маладзечанцы сталі трэцімі.

Падобны паўфінальны турнір сярод дзяўчат праходзіў у Маладзечне. Лепшай стала каманда з Барысава, на другім месцы – віляйчанкі з мясцовай ДЮСШ (трэнер **Наталля Капура**), трэція – маладзечанкі. На фінальным турніры ў Барысаве віляйчанкі засталіся за межамі тройкі прызёраў.

Па ўзросту 1987 г.н. праходзіла першынство сярод навучэнцкай моладзі. Папярэдніх спаборніцтваў не было, адразу – фінальныя. Сярод хлопцаў дома поспеху дамагліся маладзечанцы: 1. Маладзечна. 2. Барысаў. 3. Капыльскі раён. 4. Вілейскі раён. 5. Орандж (Мінск). Трэнеры пераможцаў **Уладзімір Кляміцін** і Анатоль Яфімаў. Вылучаліся ў складзе **Дзяніс Кірспу**, **Аляксандр Фядосаў**, **Таір Алахвердыеў**. Віляйчан рыхтаваў **Іосіф Іваноўскі**. Дзяўчаты 1987 г.н. спаборнічалі ў Барысаве. Маладзечанкі пад кіраўніцтвам **Людмілы Цыбульскай** сталі пятымі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НАШЫЯ ІНТЭРВ'Ю

# Сур'ёзныя планы Паўла Харашэвіча

Павел Харашэвіч – барэц грэка-рымскага стылю, 1985 года нараджэння, выхаванец маладзечанскай ДЮСШ. Ужо трэці год займаецца ў сталічным РВАРы. Сваё будучае звязвае з вялікім спортам.

**– Раскажы пра свае апошнія спаборніцтвы.**

– У верасні дэлегацыя з Маладзечна, як павялося штогод, ездзіла ў нямецкі Грайсвальд. Усяго восем чалавек. Там сабраліся спартсмены шасці краін, з прыездкых яшчэ расіяне, палякі, чэхі, фіны. У камандным заліку мы сталі трэцімі, пасля Германіі і Расіі. Дарэчы, нас прадстаўлялі па-розным, то як каманду Беларусі, то як каманду Маладзечна. Прывезлі тры першыя месцы: я ў катэгорыі 63 кг (правёў шэсць схватак), **Аляксандр Забагонскі** (58 кг), **Раман Сільвановіч** (74 кг). Два другія месцы ў **Сяргея Трубача** (69 кг) і **Сяргея Цара** (54 кг).

А напачатку лістапада ў Барысаве я выступаў у дарослым чэмпіянаце вобласці, заняў першае месца ў катэгорыі 66 кг, правёў чатыры схваткі. Яшчэ з маладзечанцаў першае месца было ў **Мікалая Гайдука** (120 кг), другія месцы ў **Міхаіла Пеўнева** (66 кг) і **Ігара Скавароднікава** (84 кг). Усе яны маладыя: 1982-83 гадоў нараджэння.

**– Наколькі сур'ёзныя твае заняткі спортам?**

– Цалкам сур'ёзныя. Гэта мая справа ў жыцці. Буду імкнуцца ўсё вышэй і вышэй. Хутка пройдзе чэмпіянат рэспублікі сярод дарослых. Калі па ўзросту мне дазволяць туды заявіцца, то буду выступаць.

**– Раскажы падрабязней пра сябе, пра сваіх трэнераў.**

– Вучыўся ў СШ №1, з пятага класа пачаў займацца барацьбой. Мае трэнеры сын і бацька Дзяніс і Антон Найлаўцы. Яны трэніруюць як належыць, правільна, жостка. Прапаную інтэнсіўную работу. Па-за трэніроўкамі добрыя, заўсёды дапамогуць у складанай сітуацыі.

Пасля 9 класа я паступіў у Мінскі РВАР, там займаюся пад кіраўніцтвам Барыса Дзмітрыева. Яго выхаванцамі з'яўляюцца, напрыклад, бронзавы прызёр Алімпіяды ў Сіднеі Дзмітрый Дзябелка і трохразовы чэмпіён Еўропы Сяргей Ліштван. У сталіцы крыху лепшыя ўмовы для трэніровак, а галоўнае, шмат моцных спарынг-партнёраў. У наступным годзе заканчваю школьны курс, магу ў РВАРы працягнуць вучобу яшчэ два гады, каб атрымаць сярэднюю спецыяльную адукацыю, а потым паступіць адразу на трэці курс акадэміі фізкультуры. А, магчыма, і адразу буду паступаць у акадэмію. Яшчэ не вырашыў.

**– Як думаеш, у якой катэгорыі будзеш выступаць праз некалькі гадоў сярод дарослых?**

– Калі не спынюся на 66 кг, то наступная катэгорыя – 74 кг. Зараз паменшала катэгорыяў у міжнародных спаборніцтвах, засталося толькі 7. Гэта было зроблена з той мэтай, каб на Алімпіядах магла быць прадстаўлена жаночая барацьба, бо колькасць удзельнікаў на кожную спартыўную федэрацыю лімітаваная.

**– Раскажы, як справы ў іншых нядаўніх выпускнікоў Маладзечанскай ДЮСШ.**

– Мікалай Гайдук вучыцца на трэцім курсе акадэміі, а Ігар Скавароднікаў – на другім. Антон Ячкін паступіў у БДУ. Аляксандр Забагонскі займаецца ў Мінскім абласным ВАРы. Ніхто з іх спорт не кінуў, працягваюць настойліва трэніравацца.

– Ты быў летам у Маскве на юнацкіх гульнях рэгіёнаў Расіі, краін СНД і Балтыі, выступаў яшчэ на некалькіх міжнародных спаборніцтвах.

– У сапернікаў, натуральна, іншыя спартсмены, чым унутры Беларусі, але змагацца з імі і перамагаць іх можна, нічога асаблівага ў гэтым няма. Стыль барацьбы той жа, што ў нас, не горшы і не лепшы.

У Маскве нашыя спаборніцтвы прайшлі за чатыры дні. Усяго мы там былі дзесяць дзён, хапала экскурсіяў, розных мерапрыемстваў, канцэртаў. Прысутнічалі на ўрачыстым і прыгожым тэатралізаваным адкрыцці. Гэтыя спаборніцтвы ўсе называлі дзіцячай Алімпіядай. Было цікава і запамінальна.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ БОКС

МАЛАДЗЕЧНА. Выхаванцы мясцовай ДЮСШ 1988-89 г.н. (трэнер **Сяргей Асанаў**) прынялі ўдзел у двух прадстаўнічых турнірах.

Тры хлопцы ездзілі на рэспубліканскія спаборніцтвы ва Узду. Там першыя месцы, правёўшы тры баі, занялі **Андрэй Чавялёў** (вага да 32 кг) і **Аляксандр Сіняўскі** (48 кг). Трэцім быў **Павел Панкоў** (60 кг).

У Мінску ж прайшоў турнір міжнароднага ўзроўню. Там былі чацвёра маладзечанцаў. Прызёрамі сталі **Арцём Монід** (2 месца, 36 кг, 3 баі) і Павел Панкоў (3 месца, 57 кг, 2 баі).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ БІЛЬЯРД

У сталічным клубе "Гранд" на юнацкі чэмпіянат краіны сабраліся 32 удзельнікі, не старэйшыя за 18 гадоў.

Ездзілі трое 17-гадовых маладзечанцаў, выхаванцаў трэнера **Віталя Жарко**. Лепшым стаў **Аляксандр Салаўёў**. Ён два матчы выйграў, два прайграў. У выніку аказаўся дзявятым. Яшчэ выступалі **Ілля Платонаў** і **Андрэй Верын**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

**21 снежня, Маладзечна, зала ЗМК**

Фінальная стадыя адкрытага чэмпіянату горада па міні-футболе. Пачатак з 10-00

21-22 снежня, Маладзечна, клуб "Караліна"

Пераднавагодні бясплатны турнір па більярдзе. Пачатак з 10-30

